# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 19 (1565) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 11 МАЯ 1986 г. ЦАНА 10 зл.


## НА ДАЛЁКІХ І БЛІЗКІХ ФРАНТАХ

### (УСПАМІНЫ ІОСІФА СЕМЕНЮКА)

Я нарадзіўся, калі мае бацькі былі ў „бежанстве", а было гэта ў 1919 годзе ў Петрапаўлаўску. У свае родныя Козлікі, што каля Заблудава, вярнуліся мы ў 1922 годзе. Як хлопцу мне, вядома, хацелася быць салдатам.

У 1940 годзе мяне прызвалі ў рабоча-сялянскую Чырвоную Армію, у 491 полк, і прызначылі для абслугоўвання гаўбіц. Наша часць стацыянавала аж у Карэліі, ля магістралі Ленінград-Мурманск, у дзевятнаццаці кіламетрах ад станцыі Качкала. Мы ўжо ведалі, што вайне не мінаваць, і інтэнсіўна абучаліся. У сярэдзіне чэрвеня наш першы дывізіён перадыслацыраваўся бліжэй да фінскага кардону. На працягу тыдня мы праехалі 240 км уздоўж таго кардону, рыхталіся правесці некалькі вялікіх абучэнняў. Але 22 чэрвеня 1941 года пачалася тая страшная вайна. На нас наступілі фінскія і злучаныя з імі нямецкія войскі. Давялося адступаць. Тады загінуў мой сябар Грышка Анацік з вёскі Аўгустова. З акружэння — бо апынуліся мы ў акружэнні — выйшлі праз дзесяць дзён; усіх салдат выратавалася якіх паўтары тысячы чалавек. Камандаваў намі, памятаю, падпалкоўнік Кісялёў. Пасля некалькіх дзён адпачынку нас накіравалі на фронт. Мяне там параніла і моцна кантузіла, два месяцы праляжаў я ў бальніцы ў Архангельску. У канцы лістапада таго ж года я зноў быў ужо на фронце, у тым самым палку. У снежні Савецкая Армія адбіла немцаў ад Масквы, і гэта вельмі ўзмоцніла дух у нас.

У 1943 годзе загінулі на вайне мае сябры Васіль Нікіцюк з Кнаразоў, Міхал Грыгарук з Трасцянкі, Іван Ануфрыюк з Райска, Уладзімір Галіцкі з Чарноўсі і шмат хто яшчэ не вярнуўся.

Мяне тады перавялі ў Асобны сапёрскі батальён. Прымаў я ўдзел у вызваленні ад фінаў Петразаводска — сталіцы Карэла-Фінскай Савецкай Рэспублікі. Ён, гэты горад, — ля вялізнага возера Анега. Фіны і немцы, адступаючы назад, усё знішчажалі за сабою, палілі. У тым раёне цяжка было ваяваць, таму што там мноства рэчак і азёраў — натуральных перашкод. Памятаю, трэба было нам хутка паставіць мост на рацэ Свір. Гэта была справа, якой не апісаць і не расказаць!..



Ветэран далёкіх франтоў — Іосіф Семянюк.

Калі ў верасні 1944 г. капітулявала Фінляндыя, нямецкія войскі, што знаходзіліся ў ёй і на поўначы савецкай тэрыторыі, не хацелі здавацца. Нас перакінулі на Кольскі паўвостраў. Адтуль мы вызвалялі нарвежскі горад Керкінес, дзвацаць трэцяга кастрычніка.

(Працяг на стар. 7)



Сябры не толькі па зброі.

Фота з архіва.

## З рэпарцёрскіх запісак

### НАПРАДВЕСНІ Ў КОЗЛІКАХ

Дагэтуль я ведаў вёску **Козлікі**, што ў Заблудаўскай гміне схавалася за крутым паваротам шашы з Беластока ў Бельск, як месца нараджэння маршала і Героя Савецкага Саюза — **Васіля Данілавіча Сакалоўскага.**

Аказваецца, што ёсць таксама **Козлікі і ў Нараўскай гміне!** Яны ля самай ракі **Нарвы,** у вельмі маляўнічым кутку нашай беларускамоўнай Беласточчыны.

Вось і Козлікі. Нядзельная, прадвясенняя, яшчэ сакавіцкая раніца. Нясмелае сонца толькі прабавала змагацца з марозам і снежнымі заносамі. Вясковыя сялібы стаялі ў святочнай цішыні. І прыемна было бачыць, што яны дбайна ўпарадкаваны, панадворкі загароджаны платамі, вельмі часта — жалезнымі, узорыста памаляванымі, дамы, хаця найчасцей усё яшчэ драўляныя, пераважна з ганкамі, шырокімі вокнамі, прыгожа ашаляваныя і памаляваныя, з узорыстымі шчытамі і надаконнікамі... Адным словам, чуецца тут жыццё і клопат за парадак у гэтых беларускіх хатах.

Козлікі — гэта ўсяго 26 дамоў, у якіх селіцца 20 яшчэ дзейсных гаспадароў і 6 пенсіянераў. Калі меркаваць па вонкавым выглядзе гэтых дамоў і гаспадарчых будынкаў, дык сяляне жывуць тут даволі заможна і з думкай аб будучыні.

Загадчык вясковага пункта прыёму малака кажа мне, што гаспадары з Козлікаў пастаўляюць кожны дзень: зімою — каля паўтысячы літраў малака, а летам у два разы больш, значыць, каля тысячы літраў. Гэта многа, нават вельмі многа, бо на кожны дом выпадае тут у сярэднім каля 20 літраў прададзенага кожны дзень малака зімою і каля 40 літраў — летам.

І ёсць асновы дзеля гэтага. Вось за вясковымі агародамі прадвясенняй паводкай шуміць і бурліць рака Нарва. Прыбярэжныя вербы сумна прыглядаюцца ў шырокім люстры вады. Наднарвянская даліна багата добра загаспадаранымі сенажацямі. Ёсць дзе пасвіць і чым карміць малочных кароў ды мясны ялоўнік.

Ёсць у Козліках і свая „злеўня". Яе тутэйшыя гаспадары, зразумела, будавалі грамадскім пачынам. Таксама, як гэтую брукаваную вулічную дарогу. На жаль, брук чамусьці абрываецца ў канцы вёскі. Старэнькі 80-гадовы, хаця яшчэ цалкам

(Працяг на стар. 3)

воплескаў дадае нам сілы. Прысутныя не хочуць адпускаць нас са сцэны. Дзякуюць нам і паўтараюць: „Да наступнай сустрэчы!“ Але, на жаль, наблізілася заканчэнне.

24 снежня вярталіся мы дамоў, горача развітваючыся з беларускімі сябрамі.

А цяпер, калі засталіся толькі ўспаміны аб нашым побыце на Беларусі, вяртаемся думкамі да спецыяльнага пісьма з падзякай ад смаргонскіх улад, у якім чытаем:

„Калектыву мастацкай самадзейнасці Польскай Народнай Рэспублікі — хору беларускай народнай песні „Васілёчкі“.

Дарагія сябры! Смаргонскі раённы камітэт кампартыі Беларусі і выканком раённага савета народных дэпутатаў горача і сардэчна вітае вас на нашай смаргонскай зямлі.

Прыміце самыя шчырыя словы прызнання і падзякі. Вашае самадзейнае мастацтва, якое шырока папулярызуе ўсю чароўнасць і самабытнасць беларускай вашай песні, глыбока хвалюе і радуе нас. Высокая культура выканання, яго прафесіянальны ўзровень пакідае незацёрты след у сэрцах вашых смаргонскіх прыяцеляў. Жадаем вам добрага здароўя, творчага натхнення, вялікай і светлай будучыні пад мірным, чыстым небам. Няхай мацнее наша дружба. Мы заўсёды рады сустракаць вас на нашай беларускай зямлі.

Смаргонскі райком кампартыі Беларусі. Выканком раённага савета народных дэпутатаў.

22 снежня 1985 года“

Нам здаецца, што нашы канцэрты былі яшчэ адной цаглінкай з будоўлі вялікай справы, якая называецца дружбай паміж братнімі народамі.

**Валянціна Мароз**
член харавога калектыву „Васілёчкі“

(Працяг са стар. 3)




кі, праўда, самых каштоўных каратаў. Некалькі вершаваных баек, крыху паэзіі, фрагменты мемуараў. Усё разам у адзін друкаваны аркуш. Да крыўднага мала! Гэта тыпова беларускі лёс творцы данашаніўскай пары. Не было дзе друкаваць, не выходзілі беларускія газеты і часопісы, не было выдавецтваў. І ў так трагічных варунках хапала графу Бандынэлі мужнасці, вялікай мужнасці, каб пісаць па-беларуску, свядома па-беларуску, ведаючы, што пры сваім жыцці за такі ўчынак можа чакаць не славы і грошай, а кайданоў і катаргі ў капальнях золата над страшнай Ленаю.

Грамадскія і палітычныя погляды пісьменніка фармаваліся, несумненна, пад уплывам ідэй народніцтва; уласнае арыстакратычнае асяроддзе абразліва празывала яго „хлапаманам“. Ён прыкмячаў тое, што беларусы моцна заражаны самапагардаю. Родчанка піша: „Каб узняць сваю ўласную годнасць (а разам з тым і годнасць народа, моваю якога ён гаварыў), пісьменнік ставіў на службу Бацькаўшчыне і свой графскі тытул, які дастаўся яму ад продкаў па італьянскім калене яго роду. Гэта той надзвычай рэдкі выпадак, калі фамільны тытул меў станоўчае значэнне. Падпісваючы беларускія творы графскім тытулам і сваім італьянскім прозвішчам, пісьменнік нібы гаварыў: Глядзіце! Я — граф, арыстакрат, італьянец па паходжанню, а ўсё ж пішу на мужыцкай мове, якую многія з вас не лічаць за мову... Аднак гэта мова такая ж людская, як і італьянская ці якая іншая. У вас проста няма належнай павагі да сваёй Бацькаўшчыны, няма павагі да сваіх продкаў, да іх культуры, няма ў вас патрыятызму, няма звычайнай чалавечай годнасці. Прачніцеся! Адумайцеся!“

Памёр Альгерд-Якуб Абуховіч граф Бандынэлі пад канец лета 1898 года. І, відаць, раптоўна, пакінуўшы на выпадковыя рукі і чужое сумленне мноства сваіх рукапісаў, багатую бібліятэку. Увесь гэты інтэлектуальны скарб, скарб беларускай культуры, месгачковыя жыхары дома закінулі на пыльнае гарышча, а нехта прымітыўнейшы з іх звычайна скурыў (самасад бываў тады свой, а на паперу шкада было капеек). Рэшта загінула ў завірусе і пажарах войнаў, захавалася тое, што паспелі раннія прыхільнікі яго таленту апублікаваць у нашаніўскіх выданнях або ў час першай вайны (у віленскай газеце „Гоман“). Зрабілі гэта не вельмі каб культурна, не дараслі да ўзроўню тэкстаў, за якія ўзяліся (памылкі, перайначанні). Сёе-тое захавалася па прыватных архівах інтэлігенцкіх родаў; граф Бандынэлі вёў шырокую перапіску, палемізаваў з Багушэвічам, а ў маладосці абменьваўся беларускімі творамі з самім Сыракомлем! Страта яго цэлай творчай спадчыны — гэта балючая для нас страта, якую беларуская літаратура адрабляе яшчэ і па сёння. Трэба ведаць і пра тое, што ён аддаў усяго сябе для роднай культуры, адмовіўшыся ад бліскучай кар'еры, ад асабістага шчасця, і нават ад нармальнага на тыя часы дабрабыту, якім карысталіся маёмасныя класы. Меў сяброў, і да сімвалу можна аднесці аднаго з яго, як сам ён гаварыў, маладых прыяцеляў, а менавіта постаць Язэпа Дылы, потым беларускага бальшавіка і дзеяча, які ўпоплеч з Жылуновічам і Чарвяковым адыграў цэнтральную ролю ў стварэнні Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

**Сакрат Яновіч**

нат ішоў у лазню мыцца“, і забілі яго. На гэтую вестку Войшалк з пінскімі дружынамі захапіў Наваградак, папоўніў свае сілы наваградчанамі і рушыў падпарадкоўваць сваёй уладзе ўсю дзяржаву. Насельніцтва „прыняло з вялікай радасцю сына свайго гаспадара“, падкрэслівае аўтар Хронікі быхаўца. І Войшалк, апанаваўшы Вялікае княства Літоўскае, „пачаў ворагаў сваіх выбіваць і выбіў іх незлічонае мноства, а іншыя разбегліся, куды вочы глядзяць“, — паведамляе той жа храніст.

Аднак не ўсё ішло так гладка: у Нальшчанскай, Дзяволцкай ды Жамойцкай землях моцна заселі прыхільнікі Тройната, іхнія стаўленнікі княжылі таксама ў Полацку і Віцебску, а забойца Міндоўга князь Доўмант з усім сваім „домам“ (каля 300 чалавек, як падаюць летапісы — М.Г.) уцёк у Пскоў, пскавіцяне паставілі яго сваім князем і ён пачаў нападаць на сваю радзіму — Вялікае княства Літоўскае. Усё гэта прымусіла Войшалка звярнуцца за дапамогай да паўднёвых суседзяў: князёў дарагічынскага Шварна і валынскага Васількі. Цяжка сёння сказаць, якою цаною ён атрымаў іхнюю дапамогу. Мабыць, аддаў Шварну Берасцейшчыну і запрасіў яго супольна панаваць у Вялікім княстве Літоўскім. Васільку, таксама, відаць, уступіў бліжэй невядомую тэрыторыю і „назваў яго сваім бацькам і панам“, — гэта абазначала, што падпарадкаваўся ўладзе князя валынскага. Ці гэта мела якоенебудзь значэнне для будучай незалежнасці Вялікага княства Літоўскага? Ніякага і ніколі! Гэта быў звычайны тактычны манеўр, такі самы, як падпарадкаванне Міндоўгам ці Данілам сваіх дзяржаваў папе рымскаму, ці завяшчанне Вялікага княства Літоўскага Міндоўгам, у выпадку яго бяздзетнай смерці, Ордэну крыжаносцаў і г.д. Патрэба дыктавала тыя ці іншыя ахвяраванні, пагадненні, абяцанні, якія потым, у адпаведным моманце, забіраліся назад — палітыка не ведае ні сораму, ні дакору сумлення. Зрэшты, Войшалк добра бачыў, што Галіцка-Валынская Русь хутка хіліцца да ўпадку: пачалася, асабліва пасля смерці Данілы (паміж 1264-67 г.г.), заядлая барацьба паміж ягонымі сынамі за ўдзелы, землі, гарады; абасобілася Валынскае княства, а ўся яна знаходзілася пад цяжкім прыгнётам Залатой арды.

Дружыны Шварна складаліся з вояў з Дарагічына, Бельска, Бранска, Суража і іншых мясцовасцяў нашага Пабужжа. Яны аказаліся дзейснай сілай. Узмоцненыя імі вайсковыя сілы Вялікага княства Літоўскага дазволілі Войшалку і Шварну перамагчы іхніх праціўнікаў, падпарадкаваць сваёй уладзе ўсе землі, у тым ліку Полацк і Віцебск, і трывала замацаваць сваё панаванне ў дзяржаве.

Найлепшым доказам трываласці і моцы Вялікага княства Літоўскага быў вялікі паход яго войск у Малапольшчу (каля 1265 года), які прайшоў Віслу і „зваяваў“ Радомскую зямлю, „взяша полона много“, як піша валынскі летапісец, і спакойна вярнуўся назад. Нельга прамінуць таго, што паход гэты „идоша мимо Дорогичинъ“ і прынялі ў ім удзел дарагічынцы („Слуги же Шварновы идоша с ними же“, — падкрэслівае той жа летапісец). Відаць, Шварн, пануючы разам з Войшалкам у Наваградку, не забываў пра сваю зямлю, пашыраў і замацоўваў заходнія яе межы. Хоць гэта выклікала ў адказ паход князя кракаўскага Баляслава Сарамлівага, але ён не крануў Дарагічынскай зямлі (мабыць, яна была адпаведна забяспечана) і накіраваўся на Холмшчыну. Аднак Шварн пры садзеянні князёў валынскіх Васількі і яго сына Уладзіміра адбілі гэтую помсту і неўзабаве пагадзіліся з Баляславам на з'ездзе ў Тарнове.

І так, са смутнай часіны Вялікае княства Літоўскае выйшла пераможна. Яго цэласнасць і моц абаранілі беларускія воі — баяры з Піншчыны, Наваградчыны, Берасцейшчыны, Дарагіччыны, Гарадзеншчыны — беларускіх зямель, якія былі яго асновай і апорай.

**Мікалай Гайдук**




## САМ НЕ ЗНАЮ

Што далей думаць і як быць? Таму і званю са званіцы. Можа, хтосьці падкажа, параіць.

Важная справа турбуе мяне. Начытаўся артыкулаў А. Барскага „На мяжы“. Наслухаўся розных нараканняў на нас, беларусаў, якія мы ветраныя, куды вецер, туды і мы. Мову забываем, дзяцей не вучым, стараемся калякаць па-рознаму, абы не па-свойму. Так, так. Такія мы, беларусы. Фальклор наш хутка загіне. Астанецца толькі тое, што пачытаць аб ім у „Ніве“ і то дзякуючы Барскаму. А ўжо ж думаў, праясняецца беларускае неба, хутка засвеціць сонца і ў наша аконца. У некаторых школах пачалі навучаць беларускай мове, знаходзяцца новыя яе прыхільнікі цешыць мяне, што і мой сын добра вывучае беларускую мову. А Барскі не толькі прапагандуе яе на мяжы, але і за мяжой. Аўрора неаднойчы аб гэтым страляла. Праховіч з Гайдучанкай па радыё распаўсюджваюць нашу мову. Людзі суботы не могуць дачакацца. Вялікую справу робяць аўтары.

Аж тут раптам... Байко ў „Адгалосках“ інакш разважае. Беларуская мова з часам загіне, кажа ён. З чаго б ён гэта ўзяў? Ці з дрэў у пушчы, ці птушкі так спяваюць? Думаю сабе: столькі добрага шуму пайшло — і вось канцы ў ваду. Не! Не можа гэтага быць! Адно мяне толькі пацяшае ў Байко: ён піша, што гэта знікане адбываецца павольна. Можа, беларускай мове не прыйдзе яшчэ канец, прынамсі на мой век хопіць. Было б вельмі крыўдна страціць тое, чаго і так мала маем. А ўвогуле дык я не веру ўсяму гэтаму. Ад вякоў у нас наша мова жыла і загінуць не можа ніколі!

**Г. Мароз**

## У АЎГУСТОВЕ ПЕСНЯ АДРОДЗІЦЦА

Хто цікавіцца песняй, той ведае, што харавы калектыў з Аўгустова не горшы ад тыневіцкага або райскага ці якога іншага. Спявалі яны беларускія і не толькі беларускія песні. Цяпер у Аўгустове не спяваюць. Чаму? З гэткім пытаннем звяртаюся я да Олі Анацік, дзяячкі гуртка вясковых гаспадыняў і душы гэтага калектыву. У нас было замнога жалобы, адказвае яна, я сама пахавала зяця Мішу. Каб неяк акрыяць, трэба часу. Я люблю песню спяваць, і мы будзем спяваць!

Варта адзначыць, што тут, у Аўгустове, пражывае Марыся Манаховіч — паэтэса, аўтар беларускіх вершаў. Я сам меў нагоду чытаць яе вершы, надрукаваныя ў „Ніве“. Не ўсе друкуюць, што я высылаю, кажа. Таму я і пісаць іх перастала...

Ёсць у Аўгустове і самадзейны музыкант. Можа, якраз і не такі ён, каб даў рады стварыць мелодыю на вершы Марысі Манаховіч, але, хто ведае: спрабаваць можа і трэба яму. Песні на творы пані Манаховіч узбагацілі б рэпертуар аўгустоўскага калектыву.

**Валянцін Семянюк**

## У АБАРОНУ ПАКРЫЎДЖАНЫХ

У кааператывах інвалідаў працуюць людзі, пакрыўджаныя лёсам, людзі з рознымі фізічнымі і псіхічнымі недахопамі. Гэтыя людзі могуць выконваць работу нескладаную, прыстасаваную да іх псіхафізічных магчымасцей.

Цэнтральныя ўлады даручылі ім выконваць бальнічную вопратку і бялізну і ўнармавалі гэтую справу адпаведнымі пастановамі. Была гэта, між іншым, Пастанова Савета Міністраў № 281 ад 13 снежня 1973 года аб забеспячэнні ўмоў для далейшага развіцця вытворчасці інвалідаў.

У шматгалінным кааператыве інвалідаў у Беластоку працуе 304 асобы. Інвалідаў тут 232 асобы, а 105 сярод іх — гэта інваліды першай і другой груп. Ад 1966 года кааператыў шыў бальнічную вопратку і бялізну і ніколі не меў клопатаў з выкарыстаннем сваіх прадукцыйных здольнасцей.

Клопаты пачаліся ў 1985 годзе. Заказчыкі пачалі адмаўляцца ад заказаных раней вырабаў з увагі на запасы, якія атрымаліся з паставак прадпрыемствамі пазаінваліднай кааперацыі.

Бягучы 1986 год для кааператыва стаў яшчэ цяжэйшы. Мае ён пераробчую моц на 822500 штук вырабаў, а прыдзел атрымаў на 622700 штук. Кааператыў не зможа захаваць бесперапыннай прадукцыі і не зможа забяспечыць працу інвалідам першай і другой групы.

Такое становішча наглядаецца ва ўсёй краіне і ўсё гэта адбываецца па простых прычынах. У час крызісу, калі не хапала бялізны, дазвол на выпуск бальнічнай бялізны і вопраткі атрымалі прыватныя прадпрыемствы, у тым ліку і паланійныя, а таксама прадпрыемствы пазаінваліднай кааперацыі, якія маюць вялікія прадукцыйныя магчымасці.

Прэзас інваліднага кааператыва ў Беластоку інж. Казімір Буйвід і яго намеснік інж. Тэрэса Рагоўская-Сачкевіч накіроўваюць просьбы і скаргі ўсюды, куды можна, між іншым, і ў Цэнтральны саюз інвалідных кааператываў у Варшаве, і ўпаўнаважанаму міністра хімічнай і лёгкай прамысловасці да спраў забеспячэння аховы здароўя, і ў рэгіянальны саюз інвалідных кааператываў у Беластоку, але пакуль што не атрымалі яны ніякага станоўчага водгуку.

Распараджэнне Савета Міністраў ад 19 ліпеня 1985 года аб забеспячэнні ўмоў дзейнасці і развіцця інваліднай кааперацыі і кааперацыі сляпых, замест дапамагчы інвалідным кааператывам, пашкодзіла ім: у адным з пунктаў было сказана, што дагэтуляшнія вытворцы могуць прадукаваць бялізну ў той самай колькасці, якую прадукавалі да гэтага часу.

Было б усё добра, каб гэтае распараджэнне загарантавала прадукцыйную моц інвалідных кааператываў, але, на жаль, пакуль што ва ўсёй краіне маюць яны цяжкасці з яе выкарыстаннем. І ў гэтым неабходна ім дапамога цэнтральных улад.

**Міхась Хмялеўскі**

## Прывыклі даіць

Апошнім часам па радыё і тэлебачанню чуваць лямант, што ў нас не хапае малака. Але чаму яго не хапае, ніхто нічога не кажа. Спрабую я, Другая Крапіва, даць на тое адказ.

Нядаўна наша прамысловасць па перапрацоўцы малака, а значыць і ўсе малачарні, перайшлі на самафінансаванне. Інакш кажучы, павінна яна зарабляць сама на сваё ўтрыманне, а не бясконца даіць дзяржаву. Гэтага патрабуе гаспадарчая рэформа. Намеры, здавалася б, добрыя. Але ж добрымі яны аказаліся толькі з аднаго боку. Бо малачарні замест зарабляць самі на сябе ўласнай гаспадарлівасцю, дбайнасцю, ашчаднасцю паўстрымаліся даіць дзяржаву і зараз жа ўзяліся даіць сялян і дояць іх, колькі хочуць. Так яны з дзяржаўнай улезлі ў сялянскую кішэнь.

Якім спосабам? Вельмі простым — гульнёй у класы! Вядома ўсім, што клас малака залежыць ад яго якасці: чым тлусцейшае, чысцейшае і свяжэйшае малако, тым клас яго вышэйшы і цана большая. Паводле гэтага яно можа быць першага класа, другога, але і пазакласнае, калі яно бруднае і без тлушчу. Вядома таксама, што класы вызначае — класіфікуе малако — малачарня. Яна і дбае, каб даць яму клас слабейшы і селяніну заплаціць як мага меней. Вось так і ўлезла малачарня ў сялянскую кішэнь ды доіць яе, колькі захоча.

І не дзіва, што апошнім часам „класы“ малака ў тых самых гаспадароў скачуць, бы той гумовы мячык. Бывае так, што ў таго ж самага гаспадара, ад тых самых кароў, з тае ж самае пашы і пры такім самым доглядзе за чысцінёй малако ў першай палове месяца закваліфікавана да першага класа — самай высокай якасці, а ў другой палове месяца яно ўжо — пазакласнае, значыць: бязвартаснае.

Сяляне на кожным сходзе дапытваюцца: чаму гэта так? І ўрэшце аднойчы атрымалі яны адказ. „А хто нам пакрые нашыя растраты ў вытворчасці?!“ — усклікнуў на адным са сходаў працаўнік Бельскай малачарні. Што ж, нічога дадаць, нічога адняць, толькі падзякаваць яму за шчырае прызнанне!..

Але вынік гэтага пакрывання негаспадарлівасці ды безыніцыятыўнасці малачарняў за кошт сялян вельмі сумны — хутка змяншаецца колькасць малочных кароў. Сялянам не аплочваецца іх гадаваць.

У кожны чацвер у Бельску на скупцы чакае вывазу на мясакамбінат па некалькі дойных кароў!

Нядаўна па радыё гаварылася, што колькасць малака зменшылася, бо сяляне пераходзяць на гадоўлю ўбойнай жывёлы — ялоўніку. Але ж і гэтакае апраўданне пацешыць можа толькі недальнавідных. Народная прыказка кажа: „Няма кароўкі — не будзе і ялоўкі“.

Трэба, каб адпаведныя органы як мага хутчэй браліся за дакладны і ўсебаковы кантроль гаспадарання нашых малачарняў і ўсяе малочнай прамысловасці ды адбілі ёй ахвоту пакрываць страты яе негаспадарлівасці коштам сялян.

**Другая Крапіва**

## СЛОВА ПРА БАБУЛЬКУ

Запамятаў я яе ўжо хворую, з апухлымі чырвонымі нагамі, з кульбакаю. Хадзіла яна на рэчку лавіць п'яўкі, якімі ратавалася. Жывот лячыла яна палыном, парыла яго, рабіла адвар. Пасціла яна шчыра, у пост нават алеем не карысталася. Ела гарохавую таўканіцу або боб, боб-таракан, як тут у нас называлі. Бульбяную таўканіцу запраўляла макам або гарчыцаю.

Лянівая капуста або страва з бручкі таксама не былі апошнімі ў яе кухні. Любіла спяваць вялікапосныя або калядныя песні, іншых не любіла. Здаралася, калі мы з братам пачыналі іншую якую песню спяваць, тады яны крычала на нас, аж плакала! Аднак уступала з часам, і мы спявалі. Штонядзелю хадзіла яна ў царкву, хоць гэта не давалася ёй лёгка. З царквы прыносіла яна недапаленыя свечкі, і я з іх круціў ёй новыя. Самы цікавы быў вечар, калі людзі выходзілі з царквы, неслі дадому запаленыя свечкі. Кожны па-свойму намагаўся засланіць іх ад ветру. Гэта было прыгожа.

Бабуля звалася Параска. Яна, пражыўшы восемдзесят два гады, памерла адразу пасля вайны, у сорак шостым годзе.

**В. Семянюк**

(Працяг са стар. 4)

## БУЛАЎНІК НАШАЙ ПАМЯЦІ

лістаў па гісторыі Беларусі. Яе працы чытаюць, рэцэнзуюць і перакладаюць за мяжою. Яна карыстаецца аўтарытэтам у акадэмічных колах Варшавы і Мінска, Лондана і Нью-Йорка.

І хоць сама яна не беларуска, усю сябе прысвяціла Беларусі. Можна сказаць: і мы, беларусы, не раз аддавалі сваіх лепшых дочак і сыноў іншым народам, але і народы тыя не заставаліся так вельмі ў даўгу перад намі. У гісторыі культур гэта частая з'ява, і наша культура не ёсць тут выключэннем.

І ў заканчэнне гэтага напаміну пра яе постаць — зусім будзённая рэфлексія: трэба самакрытычна прызнацца, што без жвавай даходлівасці Аляксандры Бергман, відаць, не дадумаліся б мы на Беласточчыне шмат-што ўчыніць. Дзякуючы яе настойлівасці, прыстойна адзначана ў Беластоку шасцідзесяцігоддзе Грамады. А ў мяне ёсць і асабісты акцэнт: з яе гэта інспірацыі напісаў я п'есу „Арышт“, пра велікана Белай Русі Браніслава Тарашкевіча.

**Сакрат Яновіч**




## САЛДАЦКІ МУРАШНІК

Пад Роўнам наткнуліся яны на нейкія танкі. Сустрэча была настолькі нечаканая, што Іван Бартнічук і яго шлёнскія сябры проста не паспелі схавацца. Ледзь адскочылі на пабочыну дарогі. Першы танк спыніўся. У люку танкавага купала паявіўся нейкі салдат. Іван глядзеў на яго і вачам не верыў. „Гэта ж чырвонаармеец! — сцвердзіў у думках. — Старшына, — дакінуў, заўважыўшы чатыры трохвугольныя знакі разрознення, нашытыя на каўняры салдацкай кашулі. — Адкуль яны тут узяліся?“ — усё яшчэ нічога не мог зразумець заблытаны воін пабітай польскай арміі.

Адкуль жа яму было ведаць, што ўрад польскай дзяржавы ўжо ганебна пакінуў тэрыторыю сваёй краіны, каб схавацца за румынскай граніцай, і таму 17 верасня 1939 года Чырвоная Армія атрымала загад: узяць пад сваю ахову насельніцтва Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны.

Старшына-танкіст таксама, відаць, упершыню ўбачыў польскіх салдат, бо ўзіраўся ў іх, як у нейкіх кірмашовых дзівакоў. Сапраўды, выгляд гэтых бадзяг са зброяй, змучаных, нябрытых, мог выклікаць адзін толькі сум. Старшына асцярагальна падняў руку.

— Вы — палякі? — запытаў.

— Нет, товарищ старшина! — падняўся на смірна Іван Бартнічук. — Я — беларус!

— Ты — беларус? — не менш здзівіўся чырвонаармейскі старшына і саскочыў з танка, каб болей уважна прыглядзецца да гэтых дзіўных салдат. — Дык ты — беларус, — сказаў ужо болей спакойна. — Значыць, мы — свае!

І старшына працягнуў Івану руку. Яго шлёнскія сябры, якія не разумелі рускай мовы, са здзіўленнем глядзелі на Бартнічука і гэтага чырвонаармейца, які так па-сяброўску вітаўся з салдатам у польскім мундзіры.

— Янэк, чаго ён хоча? — запытаў адзін са шлёнзакаў.

— Нічога, усё ў парадку, — супакоіў іх Бартнічук.

— Кідайце ў роў гэтыя свае кацюбы! — паказаў старшына на вінтоўкі, якія віселі ў Бартнічука і яго сяброў за плячыма. — Вы сваю вайну ўжо закончылі!

Іван зняў з плеч сваю вінтоўку, сумна паглядзеў на яе і без жалю шпурнуў гэтую зброю ў прыдарожны роў. Па яго прыкладу зрабілі тое самае і шлёнскія сябры.

— Вось цяпер — парадак! — сказаў старшына. — Можаце свабодна ісці дамоў, — заявіў ён. — А дзе ж гэты твой дом? — пацікавіўся ў Бартнічука.

— Пад Сямяцічамі, у Беластоцкім ваяводстве, — адказаў яму Бартнічук.

— А-а, у Беластоку? — падхапіў старшына. — Значыць ты, сапраўды, ад Заходняй Беларусі. А гэтыя, твае таварышы?

Іван пастараўся як найкарацей паясніць, адкуль яны і якім чынам тут апынуліся.

— Ну, добра, нам нельга затрымлівацца, — сказаў старшына. — Іншыя твае землякі таксама чакаюць вызвалення ад буржуазнага прыгнёту!

Старшына штосьці напісаў на кавалку паперы і падаў яго Бартнічуку.

— Вось табе пропуск, — сказаў. — Ідзі дамоў!

Танкі рушылі ў заходнім напрамку. Ад іх гусеніц дарожны пыл узвіўся пад неба суцэльнай

(Праця**г** са стар. 1)

# НА ДАЛЁКІХ І БЛІЗКІХ ФРАНТАХ

Нашу часць думалі накіраваць на заходні фронт, у Прусію. Ішла вясна сорак пятага, Нямеччына распадалася, і нас проста не паспелі давезці на новыя бітвы. Капітуляцыю Нямеччыны святкавалі мы ў Яраслаўлі. Гэта была радасць, якую словам аніяк не перадасі!.. Яе зразумее толькі той, хто шмат пакутаваў на вайне.

Ваявала яшчэ Японія. І мы паехалі на Далёкі Усход. Выехалі трэцяга чэрвеня 1945 года, і ехалі дваццаць сем дзён. Трыццатага чэрвеня мы былі ўжо ля возера Ханка. Нашым заданнем было пабудаваць мост на рацэ, якая працякала каля японскай граніцы. Мы здагадаліся, што сюдою пойдуць нашы ваяваць у Манчжурыю. Вайна з Японіяй была кароткая, але нямала на ёй загінула нашых людзей.

Ваяванне сваё закончыў я ў чыне старшага сяржанта і як намеснік камандзіра ўзводу. Дзесятага лютага 1946 года вярнуўся я нарэшце ў родныя Козлікі, што каля Заблудава. Нялёгка было прызвычайваць сябе да мірнага жыцця.

Прымаў я ўдзел ва ўмацоўванні народнай улады ў нас. У студзені 1947 г. я быў прыняты ў ППР, стаў сакратаром ПОП.

Выязджаў на ўсялякія акцыі. Бушавала падполле, банды. У вёсцы Клапоты, што каля Сяміціч, я толькі дзякуючы сваёй чуйнасці астаўся ў жывых. А ў Анусіне дык і адкрыта мяне палохалі...

Сакратарыў я ў Чаромсе, потым у Орлі. Тады гэта не быў такі бяспечны занятак, як цяпер. Можна было пакласці галаву ў найбольш неспадзяваны момант.

Ад 1954 г. стаў я на пасаду інструктара Павятовага камітэта ПАРП у Бельску. Пасля быў узнагароджаны Кавалерскім Крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы і іншымі ўзнагародамі.

Запісаў гутарку
**Андрэй Гаўрылюк**

## ФАЛЬКЛОР




# ВЯНОК

**(ВАЛАЧОБНАЯ)**

Тонка велька канапелька,
эй, віно, віно зелено!
Пад таею канаплёю,
эй, віно ...
Стоіць крэсло залатое,
эй, віно ...
А ў тым крэслі красна панна,
эй, віно...
Красна панна венец віла,
эй, віно...
Да айчэнька пакаціла
эй, віно...
Айцец вянка не прыймае,
эй, віно...
Толькі пасаг ёй рыхтуе,
эй, віно...
Ад айчэнька да матулі,
эй, віно ...
Маці вянка не прыймае,
эй, віно...
Толькі падушкі ёй шыкуе,
эй, віно ...
Ад матулі да брацішка,
эй, віно...
Браток вянка не прыймае,
эй, віно...
На шлюб коні запрагае,
эй, віно...

**Ад Эміліі Кедыш, 1921 года нараджэння, вёска Ахрымаўцы гм. Кузніца Беластоцкая, запісаў 29.9.1985 г. М. Гайдук, мелодыю расшыфраваў Я. Бондар.**

**(Працяг са стар. 2)**

# БЕЛАРУСКАЕ СВЯТА Ў МАЛІННІКАХ

Яновіч. Ён падзяліўся з сабранымі сваімі рэфлексіямі аб мінулым, аб тым, што наказвае чалавеку зваць сябе беларусам і аб яго месцы ў межах Польскай Народнай Рэспублікі.

Аб сваім нялёгкім і багатым дзейнасцю жыцці расказваў Васіль Петручук. Гаварыў без хвалявання — ён жа знаходзіўся на блізкіх яго сэрцу землях, у краіне свайго дзяцінства! І сваім выступленнем зацікавіў слухачоў.

Дыскусія скончылася — і на сцэну зноў выйшла моладзь. Тым разам вучні, удзельнікі гуртка беларускай мовы ў Пашкоўшчыне, паказалі пастаноўку „Мікітава красуня". А пасля паявіўся старшыня журы агляду А. Мартыновіч і аб'явіў вынікі конкурсу. На беластоцкай сцэне выступяць: сярод салістаў — Івона Іванюк з Крывой, Міраслаў Пракапюк з Пашкоўшчыны і Аня Дзмітрук з Орлі; дуэты — Ліля Майстровіч і Ася Гаворка з Орлі, Аня Бурак і Ёля Загон, Кася Залеўская і Дануся Велюк з Пашкоўшчыны, трыо — Эльжбета Максімюк, Анэта Мураўка, Аня Рошчанка з Пашкоўшчыны і два калектывы: з Маліннік і Орлі. Член Прэзідыума ГП БГКТ А. Мартыновіч, жадаючы ўзнагароджаным поспеху і дзякуючы ўсім за ўвагу, закрыў урачысты пленум.

Сустрэча настаўнікаў і дзеячоў БГКТ з нашымі госцьмі прадоўжылася яшчэ вечарам пры шклянцы чаю. Адбылося гэта дзякуючы як заўсёды гасціннай дырэктар школы Вольгі Стэльмасік.

Да новых сустрэч!

**Ян Добаш**



## НОВАЕ Ў ДУБІЧАХ ЦАРКОЎНЫХ

У Дубічах Царкоўных узяліся за будаванне, як ніколі дагэтуль. Зараз ідзе разбудова памяшканняў гміннага асяродка культуры і гміннага ўпраўлення.

Сёлета аддадуць у карыстанне прасторны будынак для ветэрынарнай службы. Апрача лячэбніцы будзе ў ім шэсць кватэр.

У суседняй вёсцы — Грабаўцы ў верасні бягучага года тамашнія вучні распачнуць новы навучальны год у новай школе. Пабудавалі яе ў грамадскім пачыне. (яц)

## ВАДАСХОВІШЧА

Сёлета можна будзе ўпершыню адпачываць над штучным вадасховішчам каля вёскі Чэхі Арлянскія ў Дубіцкай гміне. Займае яно плошчу ў 5,5 гектара. Праз месяц-два прывязуць сюды байдаркі і можна будзе на іх катацца.

У наступным годзе над спамянутым возерам пабудуюць дваццаць невялічкіх домікаў. Тады прыедуць сюды ў водпуск першыя курортнікі з бліжэйшых гарадоў: Бельска Падляшскага і Гайнаўкі. (яц)

## „ПРАГУЛКА" Ў КАТЛАХ

Кавалак дарогі, які спалучае катлоўскую вясковую вуліцу з шашою з Бельска ў Нарву, называюць Прагулка. Зрэшты, ёсць гэтых „Прагулак" дзве тут: адна з боку Бельска, другая ж — з боку Пасынак. І якраз пра гэту другую забыліся людзі зусім. Тут — поўна балота, нават прайсці сюдою і то нялёгка. Кажуць: бо солтысу яна непатрэбная, таму і занядбаная такая... Ну, а што можа думаць пра гэта Міхал Чаламей, начальнік гміны? Можа, гміна зробіць работу за катлоўскага солтыса? Або, можа, солтыс усю віну перакіне на катлоўскіх людзей, кажучы, што ім напляваць на сваю дарогу?.. Вінаватых, пэўна, не будзе... І работы зробленай таксама не будзе?..

**Андрэй Гаўрылюк**

заслонай. Іван Бартнічук і яго сябры стаялі на пабочыне дарогі і надалей нічога не разумелі з таго, што адбывалася навокал.

Схаваў Бартнічук старшынову запіску ў кішэнь салдацкага мундзіра і накіраваўся за гулам танкаў, што імчаліся на Брэст. У гэтым жа напрамку прабіраліся таксама многія іншыя групы польскіх салдат і цэлыя вайсковыя часці. Яны паперамешваліся з чырвонаармейскімі атрадамі і ніхто на гэта не звяртаў асаблівай увагі. Пад самым Брэстам Бартнічукову групу перапыніў нейкі чырвонаармейскі афіцэр. Іван паказаў яму запіску ад старшыны.

— Ага, ты дамоў? — афіцэр паглядзеў на іх дапытліва. — Добра, пойдзеш, толькі найперш трэба тут разгрузіць польскія эшалоны, каб ачысціць чыгуначную дарогу для праезду ваеннай тэхнікі, — загадаў савецкі афіцэр, і Бартнічукова група накіравалася на вызначаную працу. А там ужо кішэла ад натоўпу польскіх салдат. Іван Бартнічук уліўся ў гэты людскі мурашнік.

І не змог ужо з яго выбрацца. Стаў звычайным ваеннапалонным разбітай дзяржавы. З Брэста накіравалі іх у Мінск, а з Мінска — на поўнач.

— Найдаўжэй трымалі нас між Архангельскам, Котласам і Ухтой, — успамінае Іван Бартнічук. — Будавалі мы там чыгунку.

Салдацкі мурашнік працаваў сярод імхоў Запаляр'я, каб у недаступныя куткі вялікай краіны прадоўжыць жыццедайную нітку жалезнай дарогі, не ведаючы, што дзеецца ў свеце, не ведаючы і таго, што вялікія палітычныя сілы распачалі змаганне таксама і за іх лёс.

Пасля доўгіх і цяжкіх перагавораў, пасля падачы ў адстаўку аж трох міністраў (Саснкоўскага, Залеўскага і Сэйды) прэм'ер-міністр Рэчы Паспалітай Польскай, генерал Уладзіслаў Сікорскі 30 ліпеня 1941 года падпісаў у Маскве з урадам СССР пагадненне аб узаемаадносінах і супрацоўніцтве. 12 жніўня таго ж года Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР абнародваў дэкрэт аб амністыі для польскіх грамадзян, „...пазбаўленых свабоды на савецкай тэрыторыі ў якасці ваеннапалонных або на іншай аснове", — як гаварылася ў гэтым дэкрэце.

Ян Бартнічук і цэлае гэта салдацкае змучанае зборышча, што корпалася ў паўночных імхах, хутка адчула дабрадзействы савецка-польскага дагавору.

— Нам аб'явілі, што мы свабодныя людзі і паўнапраўныя грамадзяне. Ды сказалі яшчэ, што адпраўляюць нас, каб мы ўключыліся ў супольную барацьбу з гітлераўскай Германіяй.

Вядома, у салдацкім мурашніку закішэла ад радасці. Не ведалі яны, што з'яўляюцца толькі маленькімі картамі ў вялікай палітычнай гульні. Прафесар Уладзімір Кавальскі, вядомы даследчык гэтага перыяду нашай гісторыі, аўтарытэтна сцвярджае, што:

„Генерал Сікорскі найбольш быў зацікаўлены ў стварэнні 100—150-тысячнай арміі на тэрыторыі СССР, якая магла б падняць палітычнае значэнне яго ўрада і замацаваць становішча Польшчы ў лагеры Аб'яднаных Дзяржаў..."

З поўначы Іван Бартнічук, разам з іншымі былымі палоннымі, трапіў пад Маскву, недзе ў раён Вязьмы.

— Вось тут і пачалося фарміраванне Польскай Арміі, — гаворыць ён. — Я трапіў у сапёры 5 Крэсавай пяхотнай дывізіі.

Не мог ён, зразумела, ведаць, што гэтакія фарміровачныя пункты Польскай Арміі знаходзяцца ў многіх кутках Савецкага Саюза. Але гэта ўжо іншая справа, аб чым наступным разам.

**Віктар Рудчык**

# ЗОРКА
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Веснавыя парадкі вакол новай школы ў Дубяжыне. Фота са школьнага архіва.

### МАЛЕНЬКІЯ ПАМОЧНІЦЫ

Оля і Ліда бавіліся на падворку. Убачыла Оля, як Пятрок памагае сваёй маме развешваць бялізну, і сказала сяброўцы:

— І я сёння маме памагала.

— І я таксама, — адказала Ліда. — А што ты рабіла?

— Выцірала талеркі, і лыжкі, і відэльцы.

— А я чаравікі пачысціла.

— Маміны? — спытала Оля.

— Не, свае.

— Дык якая ж гэта дапамога маме? — засмяялася Оля. — Ты ж для сябе іх пачысціла.

— Але затое сёння для мамы будзе менш работы, — сказала Ліда.

Так ці не?

### ВЕРАБЕЙЧЫК

Марынка ўбегла ў пакой вясёлая, і адразу з парога закрычала:

— Глядзіце! Верабейчык!

Люда сядзела ля стала і малявала. Яна ўсхапілася з месца, адсунула крэсла і кінулася да сястры:

— Дзе?

— Вось, — раскрываючы далоні, Марынка паказала шэрую птушачку.

— Мабыць, з дрэва зваліўся і пабіўся, — сказала мама.

— А ён выздаравее?

— Не ведаю, трэба яму памагчы.

— Выздаравее! Выздаравее! — стараліся перакрычаць адна другую дзяўчаткі. — Мы будзем яго даглядаць.

У той жа дзень мама прынесла ад суседзяў старую клетку і пасадзіла ў яе верабейчыка. Марынка і Люда паставілі ў клетку сподачак з вадою: накрышылі хлеба, насыпалі круп.

У першы дзень птушачка прасядзела настрошыўшыся ў куточку, нічога не ела. На другі дзень трошкі падзяўбла. А праз некалькі дзён ужо весела скакала з перакладзінкі на перакладзінку.

На двары была вясна. Па зялёных кронах дрэваў ледзь заўважна прабягаў цёплы ветрык, ярка свяціла сонца, у паветры звінелі птушыныя галасы.

Алег Буцень

## МАЛЕНЬКІЯ АПАВЯДАННІ

У адзін з такіх дзён Люда падышла да адчыненага акна, над якім вісела клетка, глядзіць, а верабейчык зноў настрошыўся і сядзіць сумны ў куточку. Праляцець каля акна нейкая птушачка — ён ажывіцца, матне галавою за птушачкай, распушыць крылы і зноў замірае. Мабыць, хацелася і яму паляцець у сіняе неба.

Шкада стала Людзе верабейчыка. Яна адчыніла дзверкі клеткі і... выпусціла яго на волю.

У гэты момант у пакой убегла Марынка. Убачыла пустую клетку, пытаецца:

— А дзе верабейчык?

— Выпусціла, — адказала Люда.

— Эх ты! — накінулася на яе Марынка. — Гультайка! Даглядаць яго не хочаш, дык выпусціла!

— І зусім не, — заспрачалася з ёй Люда. — Яму цесна ў клетцы, а ён лётаць хоча.

Так ці не?

### АСТРЫ

Убачыў Сярожка ў двары сястру Юлю і адразу да яе:

— Глядзі, якое насенне. — І расціснуў кулак. — З яго астры будуць. Дзядзька Сямён даў.

— Дай мне, — папрасіла Юля.

— Не, сам пасаджу.

Вельмі хацелася Юлі вырагадаваць кветкі. Яна даўно ўжо марыла аб гэтым.

— Хочаш, — запрапанавала яна брату, — бяры за іх мае каляровыя алоўкі.

Пасумняваўся трошкі Сярожка, паўдаваў, але згадзіўся. Аддаў за алоўкі чатыры зярняткі насення, а рэшту сабе пакінуў.

Пасадзіла Юля свае зярняткі ў вазон. Кожны дзень палівала. А калі з'явіліся чатыры раслінкі, вынесла вазон на балкон, каб сонца іх грэла, памагала расці і каб цёплы дожджык паліваў.

Цудоўныя астры выраслі ў яе. А Сярожкава насенне так і засталося ляжаць у карабочку.

Прыйшлі неяк да мамы госці, убачылі кветкі, кажуць:

— Якія прыгожыя! Дзе вы іх дасталі?

Зачырванелася Юлька ад пахвалы і, саромячыся, усміхнулася. А тут, адкуль ні вазьміся, Сярожка...

(Працяг на стар. 10)

З раённага агляду

## „Беларуская песня” ў Дубінах

У суботу, 5 красавіка, вясковы клуб у Дубінах каля Гайнаўкі запоўніўся школьнай моладдзю. Тут праходзіў раённы агляд „Беларуская песня-86” для школьнікаў. Спявалі вучні з падставовай школы ў Ляўкове Старым, Ляшуках, Дубінах, Гародчыне, Нарве, Іванках, Курашаве, Новым Беразове, Махнатым, Старым Корніне, Дашах і Чаромсе.

Прыняло ўдзел 14 салістаў, 8 дуэтаў і 9 вакальных калектываў.

У маладых спевакоў адчуваліся шчырыя пачуцці любві да роднай песні. Звонкія мілыя галасы стварылі святочную атмасферу ў вясковым клубе. Зала была запоўнена іх школьнымі сябрамі, настаўнікамі і мясцовымі жыхарамі.

Раённы агляд на Гайнаўшчыне быў доказам, што і ў сэрцах маладога пакалення жыве наша родная песня.

Журы закваліфікавала на цэнтральны агляд 6 салістаў: Марыю Сцепанюк з Новага Беразова, Марыю Аліфер з Ляўкова, Малгосю Такаюк з Дашоў, Андрэя Кузуба з Чаромхі, Эву Галіцкую з Нарвы і Тамару Назарук з Гародчына; дуэты з Ляўкова, Нарвы, Чаромхі і Дубін; квартэты з Ляўкова, Іванкаў і Ляшукоў, а таксама вакальныя калектывы з Ляўкова, „Беларусачкі“ з Дашоў, з Ляшукоў, Дубін і Зуброў.

Усім спевакам жадаем далейшых поспехаў. Няхай родная песня будзе іх верным спадарожнікам у жыцці.

Янка Мордань




А. Матуціс

### ВЕРАБ'ІНАЯ РАБОТА

Трохі больш, чым капейка,  
Скача, скача верабейка  
Па сцяжынцы  
Міма нас...  
— Верабейка, ці хоць раз  
Працаваў ты?  
— Жартаўнік!  
Я працую!  
Чык-чырык!  
У гняздо нясу з ахвотай  
Чарвяка,  
Як бегемота.  
Вераб'ю —  
Работы хопіць.  
Ён сваю работу  
Робіць.

З літоўскай мовы пераклаў Павел Марціновіч



# ЗЯРНЯТКІ

**ПАДРУЧНІК РОДНАЙ МОВЫ ДЛЯ ТРЭЦЯГА КЛАСА**

**Аўтары Лідзія Гайдук — Мікалай Гайдук**

### СОНЦА

Сонейка свеціць
Ад ранку да вечара,
Сонейка грэе
Ад ранку да вечара
І не таму,
Што рабіць яму нечага.

Хоча яно,
Каб шумелі сады,
Каб у садах
Спелі дзецям плады.
Каб колас у полі
Хіліўся да раллі,
Каб травы раслі
І каб кветкі цвілі,
Каб людзі шчасліва
Жылі на зямлі.

**Іван Муравейка**

*1. Дзеля чаго свеціць сонейка? Адкажыце некалькімі сказамі.*

*2. Прачытайце сказы. Якое пачуццё і настрой трэба выказаць у іх?*

1. Надакучыла зіміца! 2. Ну, прыходзь хутчэй, вясна! 3. Хай твая краса дабра дасць і ўпрыгожыць гэты край! 4. А як прыгожы ў час вясны бярозак першыя ўборы, калі яны на касагорах у сонцы мараць свае сны! 5. Дзень добры вам, лясы і гоні! 6. Дзень добры, вясна!

**З твораў Я. Коласа.**

**У к л і ч н ы м сказе выказваецца прывітанне, заклік або моцнае пачуццё. У канцы клічнага сказа ставім к л і ч н і к (!).**

*3. Прачытайце сказы так, каб яны былі клічнымі. Пры спісванні замест кропак устаўце патрэбныя літары. Не забудзьце пра клічнікі ў канцы сказаў.*

1. Вітаю ц...бе, Жэня, у нас 2. Заўтра ў нас кіно 3. Давай мал...ваць разам 4. Гл...дзіце, які в...лікі загончык ускапалі Алеся і Люся 5. Пам...тай, не спазняйся на заняткі 6. Пры рашэнні задачкі не сп...шайся

*4. Прачытайце. Вызначце апавядальныя, пытальныя і клічныя сказы. У канцы іх пастаўце патрэбны знак.*

### ПРОСТА БАБУЛЬКА

Па вуліцы ішлі хлопчык і дзяўчынка А перад імі ішла бабулька Пасля дажджу было вельмі слізка Бабулька паслізнулася і ўпала

— Вазьмі маю сумку, — крыкнуў хлопчык і кінуўся на дапамогу бабульцы

Калі ён вярнуўся, дзяўчынка спытала яго:

— Гэта твая бабуля
— Не, — адказаў хлопчык
— Мама, — здзівілася сяброўка
— Не
— Ну, цёця або знаёмая
— Зусім не, — усклікнуў хлопчык. — Гэта проста бабулька

*5. Прачытайце сказы. Звярніце ўвагу на выдзеленыя словы і знакі прыпынку.*

С а л а в е й к а, бязмерна люблю я твой спеў. Мы зараз пойдзем, д з е ц і, на шпацыр. К р а й н а ш б е л а с т о ц к і, усім сэрцам цябе я люблю. З і н а і В а л я, куды вы хадзілі? Х л о п ц ы, бяжым на луг! Народ пранясе цябе, р о д н а я м о в а, святлом незгасальным у сэрцы сваім.

**З в а р о т а к (zwrot) — гэта адно або некалькі слоў, што называюць асобы ці прадметы, да якіх звяртаемся ў размове: глянь, В а с я, які прыгожы матацыкл. Зычу табе шчасця, б р а ц е м о й р о д н ы, у жыцці працавітым тваім.**

**У сказе звароткі аддзяляем коскамі.**

## ПАЗНАЁМІМСЯ

СССР, 301254, Тульская обл., Одоевский район, п/о Рылёво, Гречишкину Валерию. 5 клас.

* ✲ *

СССР, 301254, Тульская обл., Одоевский район, с. Рылёво Гончарову Сергею. 5 клас.

* ✲ *

СССР, 346514, Ростовская обл., г. Шахты-14, ул. Баррикадная, 4, кв. 4. Нефёдовой Наташе. 4 клас.

* ✲ *

СССР, 344065, г. Ростов-на-Дону, ул. Киргизская, 9/1, кв. 1, Павленко Лена. 5 клас.

* ✲ *

СССР, 346514, Ростовская обл., г. Шахты-14, ул. Баррикадная, 12а, кв. 13. Поповой Юлии. 10 год.

* ✲ *

СССР, 344065 г., Ростов-на-Дону, ул. Грысенко, 21/62, кв. 54. Клочков Игорь. 3 клас.

* ✲ *

СССР, 346555, Ростовская обл., г. Шахты, пос. Майский, ул. Железнодорожная, 7а, кв. 33. Шевляков Олег. 5 клас.

* ✲ *

СССР, 346406, Ростовская обл., г. Новочеркасск-6, пер. Электровозный, 12. Крамаровой Лене. 20 год.

* ✲ *

СССР, 346555, Ростовская обл., г. Шахты, пос. Майский, ул. Ленина, д. 10, кв. 32. Щиндрыгину Андрею. 5 клас.

* ✲ *

СССР, 346555, г. Шахты, ул. Первомайская 26. Копыловой Кате. 5 клас.

* ✲ *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. К. Лібкнехта, 122, кв. 17. Каця Болбат, 4 клас.

* ✲ *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. К. Лібкнехта, 118, кв. 34. Вера Панамарова, 4 клас.

* ✲ *

БССР, 220060, г. Мінск-60. вул. Волаха, 49, кв. 23. Юля Нікіценка, 4 клас.

## Пішуць школьнікі

### ДАРАГАЯ „ЗОРАЧКА"!

Завуць мяне Анеля Самоцік. Вучуся я ў восьмым класе. Хачу Табе, „Зорачка" расказаць пра вялікае свята, якое адбылося ў нашай школе. Яно было звязана з Днём Жанчын і адначасова з XXX-годдзем „Нівы".

На гэтае свята мы запрасілі гасцей з гміны. Яны прыбылі на нашае запрашэнне. На ўрачыстасць прыйшлі таксама мамы і бабулі вучняў. Запрасілі мы і Цябе, „Зорачка", але Ты не прыехала. Шкада, што Цябе не было.

На пачатку была прывітальная песня. Мы прывіталі ёю гасцей і запрасілі іх на наш міні-канцэрт. Песні ў канцэрце былі падарункам разам з кветкамі нашым настаўніцам. Потым дзеці ўручалі кветкі прыбылым мамам. А далей былі вершы і песні для нашых мам.

Другая частка праграмы была прысвечана гадавіне „Нівы" і БГКТ. У гэтай частцы былі вершы, гумары, проза, сцэнкі і песні. Рэпертуар быў вельмі багаты, а пры тым цікавы і вясёлы.

У час кароткага перапынку ўдзельнікі падмацаваліся булачкамі з аранжадай з нашай школьнай спулдзельні „Пчолка".

А пасля перапынку пачаўся вялікі баль-маскарад. Усе вучні былі ў масках. Былі тут і ляснічы, і воўк, і чырвоная шапачка, і разбойнік-пірат, і сняжынкі, і шмат-шмат іншых вобразаў з казак. А каралямі балю была пара „арабаў" — Кася Кунцэвіч і наш настаўнік фізкультуры Яраслаў Раманчук. У час танцаў кожны мог паспрабаваць свайго шчасця — выцягнуць лёс латарэі. Грошы з гэтай латарэі мы перадалі на фонд пабудовы музея ў Гайнаўцы.

Гулялі мы вельмі хораша, доўга і добра. З намі гулялі і нашыя настаўнікі і госці.

Было цудоўна. Шкада толькі, што Цябе не было, „Зорачка".

**Анеля Самоцік, Ляшукі**

## Вясёлы куточак

### МОЖНА І БОЛЕЙ

— Ці ты можаш, любы сынку,
Памаўчаць хаця б хвілінку?
— Каля дошкі ў школе, тата,
Магу і болей я маўчаць...

### ДАМОВІЛІСЯ

— За адказ твой, Адась;
Паставіць тройку не магу я!
— Ні-ні! — вучань паспяшае. —
Чацвёрка будзе аж занадта!..

### ЖАЛАСЛІВЫ

— Чаго гэта ў цябе, —
Бацька да Пеці, —
Адны толькі тройкі
У трэцяй чвэрці?!
— Бо настаўнікаў жа
Дырэктар лае,
Калі ў іх класе
Хтосьці двойку мае.

**П. Капчык, настаўнік**

## Вучнёўская творчасць

*Святу Першамая прысвячаюць свае творы вучні пятага „Б" класа з гайнаўскай школы № 2. Вучыць беларускай мовы іх настаўнік Пётр Гінш т.*

### МАЙ

Свята Першамая
На усёй зямлі.
Розныя людзі
У паходзе ішлі.
Усе яны не хочуць вайны!
За мір на свеце
Змагаюцца яны!

Мір — вялікае шчасце!
Не дазволім яму прапасці!

**Яраслаў Сац**

### ПЕРШАМАЙ

Першамай!
Сцягі высока ўзняты.
Кветкі засланілі свет.
Першамай!
Вясны і сонца свята,
Ты да нас у сонцы
Заглядай!

**Аня Казімірук**

### 1 МАЯ

Першае Мая —
Святы дзень.
Мы ідзем у паходзе
У гэты дзень.

Ідзе Аня, ідзе Ваня,
Усе ідуць радком,
Людзі мараць аб спакоі
І не хочуць знаць аб боі

Мы сцягі нясем
І песні аб міру пяем.

**Марэк Мацюка**

### 1 МАЯ

1 Мая — сонечны дзень.
Усе народы на свеце ідуць,
Каб бараніць мір,
Каб не было бомбаў.

Ідуць дзеці і дарослыя,
Усе нясуць транспаранты,
Каляровыя і вялікія,
Як мір на зямлі.

**Эля Антонюк**

**(Працяг са стар. 9)**

### МАЛЕНЬКІЯ АПАВЯДАННІ

— Гэта мае астры.
— Як гэта твае? — здзівілася Юлька.
— Як, як... Я ж табе насенне даў. Помніш?
— Дык гэта ж насенне, а не кветкі...
— Ну і што? Значыць, і кветкі мае...
Так ці не?

### А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А



**Колькі трохвугольнічкаў на гэтым малюнку?**



**Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1**

